

№ 28(413) 14 ЛІПЕНЯ 1999 г. НАША СЛОВА

# Слова пра родную мову

Добры дзень, паважаная рэдакцыя.

На гэты ліст мяне падштурхнуў артыкул Івана Васілеўскага ў газеце "Народная воля" і водгукі чытачоў. Тэма беларускай мовы закранула мяне за жывое і не ўстрымаўся, каб не выказаць свой пункт гледжання.

Пачну з таго, што нарадзіўся і правёў свае юнацкія гады ва Уздзе. Чытаць і пісаць пачаў дзесьці з пяці гадоў, "робячы ўрокі" з суседскім хлапчуком, які вучыўся ў трэцім класе беларускай школы. Чытаў усё, што трапляла пад рукі ці давалі старэйшыя дзеці. Гэта былі казкі, апавяданні, даклады М.Суслава на з'ездах. Беларускую мову ведаў добра для свайго ўзросту.

Пайшоў у рускамоўную школу, але мне вельмі пашчасціла, што беларускую мову выкладала Галіна Іванаўна Даўгулевіч, прыгожай душы, улюбёны ў родны край, яго мову і сваю прафесію чалавек. З якім гонарам, павагай і душэўнай цеплынёй яна ставілася да беларускай мовы і літаратуры! І такія ж адносіны старалася перадаць сваім вучням. Вялікае ёй дзякуй за яе самаадданую працу і за тое, што яна ёсць.

На працягу ўсяго свайго жыцця, а пражыў я ўжо паўвеку, з вялікім задавальненнем і асалодай чытаю, пішу і размаўляю на роднай мове, мове сваіх продкаў. Таксама валодаю і рускай, чытаю і разумею ўкраінскую, славацкую і балгарскую. Вось ужо другі год мясцовая газета друкуе мае вершы. У газету я дасылаю вершы менавіта на беларускай мове, хаця пішу таксама і на рускай. Але лічу, што лепш за беларускую ніякая іншая мова не перадасць тых пачуццяў, прыгажосці беларускай зямлі. Апісаць прыроду, быт, гумар Беларусі магчыма ў поўнай меры толькі на роднай мове. Сатырычныя і гумарыстычныя творы маюць сваё гучанне і набываюць асаблівы каларыт, калі напісаны па-беларуску. У ёй такія трапныя выразы, што перадаць іх на іншай мове немагчыма.

Таму лічу, што ўсе спрэчкі і дэбаты адносна беларускай мовы неабгрунтаваныя, беспадстаўныя і неэтычныя. Ёсць дзяржава, народ, павінна быць і мова. А народ і дзяржава існуюць да той пары, пакуль жыве мова. Ніякія ўказы, дэкрэты і рэферэндумы не маюць ні маральнага, ні юрыдычнага права вырашаць лёс мовы. Ёсць краіна Беларусь – ёсць і беларуская мова.

Яшчэ хочацца прывесці невялікі прыклад, як іншыя народы любяць, паважаюць і ганарацца роднай мовай. Па волі лёсу мне ў 60-62 гадах давялося жыць у Абхазіі. Дык бачылі б вы, як ставіліся грузіны, армяне, абхазцы і іншыя народы Каўказа да сваёй роднай мовы. Пры гэтым усе ведалі рускую. Усе шыльды былі на трох мовах: абхазскай, грузінскай і рускай, каб зручна было ўсім. Там таксама жылі рускія, беларусы, украінцы, людзі іншых нацыянальнасцяў, але з боку карэннага насельніцтва не было ніякіх папрокаў, зняваг. Наадварот, яны з вялікай зацікаўленасцю і задавальненнем слухалі гутаркі беларусаў ці украінцаў, прасілі перакласці тое ці іншае слова, выраз, прымаўку. Я лічу, што народ, чалавек, які паважае і ганарыцца сваёй мовай, ніколі кепска не адзавецца і не абразіць чужую.

Хачу сказаць усім беларусам: "Не саромейцеся роднай мовы, а ганарыцеся, любіце і паважайце яе, пішыце, чытайце і раўзмаўляйце на ёй, вучыцеся і пашырайце свае веды. Мова, як і маці, адна, дадзена нам Богам, і не любіць яе і не паважаць мы не маем маральнага права".

***Мікалай Галавенчык.***

# "...Кім ты сябе назавеш між людзей..."

Нататку з такім загалоўкам аддаў у Берасцейскую газэту "Вячэрні Брэст". Там, між іншым, паабяцалі яе надрукаваць. Чакаў месяц і крыху болей, а надрукоі]кі няма. Асэнсоўваю, што ідзе моўны, калі не ўсеагульны этнацыд беларусаў. Гэта нататка прымеркавалася к 50-годдзю Берасцейскага паэта Міколы Пракаповіча.

Я пісаў, што з М.Пракаповічам пазнаёміўся ў 82 годзе, калі ёнздымаў трэніроўку баксёраў маёй групы. Як з паэтам М. Пракаповіча пазнаў пазней па яго твору "Запавет В.Цяпінскага":

*"... Што можа быць больш брыдкім,*
*калі й тыя,*
*Хто мусіў бы нас весці за сабой,*
*Хто пры жыцці амаль*
*займаны ў святыя*
*Найболей мовай грэбаюць сваёй.*

*Жыве народ, пакуль жывое Слова*
*Не ўзняцца без яго вышэй травы...*

А вось словы з паэмы "На кругі свае":

*... Глянеш у вёсцы:*
*Ну дзеўка як дзеўка,*
*Вырвецца ў горад —*
*А божа ж ты мой —*

*Слова па-людску не вымавіць —*
*Дзе там!*
*Мовы стыдзіцца роднай сваёй.*
*Шчодрыя —*
*Усё мы аддаць гатовы,*
*Потым не вернеш,*
*Не знойдзеш нідзе*
*Як жа на свеце без роднага слова*
*Кім ты сябе назавеш між людзей?*

Адметна, што віншаванне юбіляра адбывалася перад народным святам "Дзяды". Таму на вечарыне ўзгадваліся пісьменнікі і паэты Берасцейшчыны, якія ішлі побач з М. Пракаповічам і былі яму дарадцамі: мовазнаўца У.А.Калеснік; паэты — М.Засім, Н.Мацяш, П.Гадулька і інш.

Гэта вечарына з'явілася сапраўдным святам Слова і Роднасці.

І апошняе Мікалай Мікалаевіч ад твару сваіх сяброў і сябе зычу Вам здароў'я, счасця, плёну.

І каб крылаты конь, імя якому Пегас,
Яшчэ надзейна і доўга служыў Вам
і ўсім прыносіў радасць.

Прабачце за чужое зло і спазненне з віншаваннем.

***В.Барболін — сябра рады ТБМ г.Берасце.***

# Дызелі паруселі...

Колькі гадоў запар у дызель-цягніках Гарадня – Ліда – Баранавічы і Гарадня – Ваўкавыск – Баранавічы ўсе абвесткі рабіліся на беларукай мове і ў пасажыраў да машыністаў не было ніякіх прэтэнзіяў. Беларускую мову разумелі ўсе. І на працягу шэрагу гадоў яна была годная для ўжывання на чыгунцы. Дзесьці на працягу апошняга месяца аб'явы аб прыпынках машыністы, па незразумелых прычынах сталі рабіць на расейскай мове. Невядома толькі, гэта загад начальства ці іх уласная ініцыятыва.

***Язэп Палубятка.***

# ...а лякарня стала беларускай

Мастоўская тэрытарыяльная медыцынскае аб'яднанне праводзіць замену шыльдаў. Старыя расейскамоўныя мяняюцца на новыя, якія напісаны на беларускай мове.

**Антон Макей.**

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічныхнавук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Напрыканцы*** – натуральнае слова. "Напрыканцы ўсяго надта карцела абвінавацiць іншых, тых, каго цяпер тут не было" (Васіль Быкаў. На чорных лядах). "Напрыканцы чэрвеня ў памяшканні Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і вольнага часу адбывалася прэм'ера монаспектакля "Амор ардэнс" ("Полымя кахання") па драматычнай паэме Людмілы Рублеўскай" (ЛіМ. 7. 02. 1998.С.10). "Інстытут з'явіўся напрыканцы ХУІ ст. (Г.М. Сагановіч. Войска Вялікага княства Літоўскага ХУІ – ХУІІ стст. – Мн., 1994.С.33).

Лексема ***напрыканцы*** ўзнікла з спалучэння трох словаў: ***па, пры, канцы.*** Параўн.: "Пры канцы ліпеня ў Беластоку (Польшча) адбылася ІІІ міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Культура і адукацыя беларускага памежжа" (ЛіМ. 7.08.98.С.3). І згадаем ўжо: ***"Напрыканцы чэрвеня..."*** Гэты вытворны прыназоўнік надта выразна і дакладна перадае часавае значэнне; гэтаму спрыяе выкарыстанне ў складзе яго двух першасных прыназоўнікаў ***на-*** і ***пры-***. У жывой народнай мове такое спалучэнне двух (трох) прыназоўнікаў у адзін – нярэдкая з'ява. Напрыклад: ***спаміж*** мае ў сваім складзе тры словы: ***с (<з), па, між.*** Спаміж скрыняў выбегла мыш і проста пад ногі (П.Сцяцко. Дыялектны слоўнік. З гаворак Зэльвеншчыны. - Мн., 1970.С.150). Гэты прыназоўнік спалучае значэнні месца і кірунку. Дарэчы, яго бачым і ў Кузьмы Чорнага: "У адным месцы чалавек спыніўся, стаў спіной да лесу і спаміж кустоў глянуў на прырэчнае поле". Слова ***спаміж*** зафіксавалі і акадэмічныя слоўнікі, але невядома чаму з кваліфікацыяй "дыялектнае", з спасылкаю гл. ***паміж.*** Але ж семантыка іх розная: яна багацейшая і больш выразная у прыназоўніку ***спаміж.***

Слова ***напрыканцы*** бытуе і ў іншых славянскіх мовах. Яго фіксуе "Українсько-російський словник" (Київ, 1977.С.405): Наприкінці нар. В конце, под конец; разг. Напоследок.

Першапачаткова слова ***напрыканцы*** мела значэнне прыслоўя. Ды і цяпер выкарыстоўваецца з гэтым значэннем. Напрыклад: "Ён правёў мяне па ўсім заводзе, паказаў усё, што дазволена, і напрыканцы задаволена сказаў: "Вось цяпер ты пабачыў, якія ёсць вытворчасці" (ЛіМ. 7.08.1998.С.13).

Імкненне некаторых уплывовых мовазнаўцаў дыскрэдытаваць слова ***напрыканцы*** не дало плёну. Сёння ім вельмі актыўна карыстаецца перыядычны друк і зналыя пісьменнікі і навукоўцы.

***Лядоўня, лядоўнік, а не ляднік.*** Слова ***лядоўня*** падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С. Некрашэвіча (Мн., 1926.С.162: "Лядоўня ж. – ледник". РБС – 82 рас. Ледник перакладае двума словамі: лядоўня (погреб со льдом) і лядоўнік (вагон, шкаф) (Т.1.С.400). Тое самае бачым і ў РБС – 93 і РБС – 98 (Т.1.С.413). ТСБМ (Т.3.Мн.,1979.С.71) фіксуе толькі слова лядоўня "склеп з лёдам для захоўвання мясных, рыбных прадуктаў". А вось двухтомавы БРС – 88,89, падаючы два словы – ***лядоўнік*** і ***лядоўня,*** першае з іх не вызнае за норму: "Лядоўнік м. лядоўня. Лядоўня ж. (погреб со льдом) ледник м.". А з значэннем 'вагон з лёдам' падае ўжо ляднік (<рас. ледник), як і геалагічны тэрмін. Вось як набліжаліся мовы! Аднак "Тлумачальны слоўнік" 1996 года не пацвярджае гэтага. Тут бачым: "Лядоўнік м. Вагон з лёдам" і "Лядоўня ж. Склеп з лёдам для захоўвання мясных, рыбных прадуктаў" (с.325). А ляднік мае тут значэнне геалагічнага тэрміну "зборышча вялікай масы паўзучага лёду ў гарах ці палярных зонах". Праўда, і тут не падаецца з згаданым значэннем адмысловае слова ледавік, якое яго папярэднік яшчэ фіксаваў: "Ледавік м. Разм. Тое, што і ляднік (ТСБМ. Т. 3. Мн.,1979.С.31). А між тым менавіта гэтае ледавік найбольш выразна азначае лядовае скопішча ў гарах ці палярных зонах.

Апошнім часам гэтае досыць выразнае найменне ***лядоўня*** выкарыстоўваецца ў друку і з значэннем побытавай прылады для захоўвання (пры нізкай тэмпературы) харчавання, г.зн. як сінонім да ***халадзільнік.*** Відаць, тут устанаўляецца пэўная асацыяцыя з лёдам, які ўтвараецца ў халадзільніку.

Дарэчы, і ў іншых славянскіх мовах утварэнні з коранем ***–лёд-***называюць і халадзільнік: польск. ***Lodowka*** -- халадзільнік пакаёвы, ***lodownia*** -- ледавік; халадзільнік (вагон); чэск. ***Lednicka*** -- халадзільнік.

***Вар'ятня і псіхушка.*** Утварэнні з суфіксам –ушка беларускай мове неўласцівыя. Таму на месцы рас. ***психушка*** (разм.) ў друку бачым яго беларускі адэкват ***вар'ятня*** (утварэнне ад ***вар'ят*** з выкарыстаннем суфікса ***–н-я: вар'ят-ня).*** Утварэнні з суфіксам ***–н-я*** складаюць прадукцыйны тып назоўнікаў з значэннем збудавання, дзе знаходзяцца (працуюць) тыя, хто названы ўтваральным словам: ***бандар – бандарня, ганчар – ганчарня, пекар- пякарня, друкар-друкарня(***...Маючы на ўвазе што былі такія звычайныя для Беларусі словы, як ***паперня*** і ***цагельня*** мушу згадаць, ќаб не забылася, і слова ***ваўначосня,*** на тарашкевіцы гэта будзе ***ваўначосьня.*** Ад рэдактара) (Гл. Беларуская граматыка. Ч.1. –Мн., 1985.С.245). Белар.

***Вар'ят*** БРС– 88(с. 221) перакладае: 1. (психически больной) сумасшедший, умалишенный, помешенный; 2. (крайне безрассудный) безумец, безумный, сумасшедший". Такім чынам, слова ***вар'ятня*** дакладна перадае паняцце і адпаведную рэалію. Слоўнікі яшчэ не падаюць гэтага – натуральнай структуры і матывацыі – слова, фіксуючы толькі лексему ***вар'ят*** з значэннем *"псіхічна хворы чалавек"* (ТСБМ.С.107).

***Багаслужба і багаслужбовы – а не богаслужэбны.*** Рас. Богослужение и богослужебный нашыя акадэмічныя слоўнікі перакладалі словамі ***набажэнства і набажэнскі*** (БРС – 62.С.463; РБС-53.С.38). Слова набажэнства як адэкват рас. ***богослужение*** фіксуе і БРС-26 (с.175). А вось слоўнікі 80-х гадоў ужо і ў беларускай частцы падаюць "усесаюзныя словы" (толькі напісаныя па-беларуску). Так, у РБС – 82 чытаем: "Богослужебный церк. богаслужэбны, богослужение церк. богаслужэнне" (т.1.С.66). Прадубліравана ўсё гэта і ў РБС – 93 (Т.1.С.112): "Богослужебный церк. Богаслужэбны; богослужение ср.церк. богаслужэнне". Аднак другача частка гэтага слова – штучная, пра што сведчыць беларускі адпаведнік службовы да рас.службеный. Напрыклад, у РБС –98 (Т.3.С.377) чытаем: "Служебный 1. Службовы; 2. (вспомогательный) службовы; 3. Грам. Службовы.

У сучасным друку на месцы штучных богаслужэнне і богаслужэбны сталі выкарыстоўвацца аднакаранёвыя словы багаслужба і багаслужбовы з натуральнаю словаўтваральнаю структурай. Гэтыя словы бачым і ў кнізе: Т.Процька. Пакутнік за веру і Бацькаўшчыну. Мітрапаліт Мельхісэдэк (Мн., 1996). А таксама: "Багаслужбовыя тэксты" "Наша слова. 1996. №2).

***(Працяг у наступным нумары).***



№ 28(413) 14 ЛІПЕНЯ 1999 г. наша слова

**Валянцін Грыцкевіч,** дацэнт, сябар Міжнароднага ПЭН-клуба, сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня рады Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу, першы намеснік старшыні Міжрэгіянальнай асацыяцыі беларусаў Расеі

# Лінгвацыд або знішчэнне мовы

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

### IV. ПРЫНІЖЭННЕ СТАТУСУ І ПРЭСТЫЖУ МОВЫ.

Тое, што беларуская мова існуе як самастойная ў першай палове XIX ст. пераканаўча даказвалі славісты П.Шафарык, А.Шляйхер, Ф.Міклашыч, расейцы навуковец І.Срэзнеўскі і публіцыст М.Надзеждзін.

Іншых поглядаў прытрымліваўся крытык Вісарыён Бялінскі: "(...Мы маем поўнае права сказаць, што цяпер ужо не існуе маларасійская мова, а ёсць абласны маларасейскі дыялект, як ёсць беларускі (падкрэслена мною – В.Г.), сібірскі ды іншыя падобныя ім дыялекты".

Так ацэньваў нашу мову рэвалюцыйны дэмакрат братняга народу. Ці далёка адыйшлі абывацелі, што прыехалі ў Беларусь на службу, прадстаўнікі розных "Славянскіх сабораў" ці "Русского национального единства"?

Іерархі расейскае праваслаўнае царквы, не даючы магчымасці уводзіць беларускую мову ў багаслужбу, пераконвалі вернікаў у тым, што гэтая мова не прыдатная для Божай службы.

І гэта, ведаючы, што "ўсякая улада ад Бога"? Ці ж не ўсякая мова ад Бога?

### V. ЗВУЖЭННЕ САЦЫЯЛЬНАЙ ПРЫНАЛЕЖНАСЦІ МОВЫ

Беларусафобы ўсіх часоў любяць распаўсюджваць міфы пра недаразвітасць беларускае мовы, пра яе непрыдатнасць для зносінаў у "вышэйшых сферах": навуцы, мастацтве, палітыцы, вайсковай справе, нават надзённым жыцці. Такое сцвярджэнне становіцца ў іх адным са стэрэатыпаў пабытовай свядомасці.

Галоўны ўдар тыя, хто хацеў бы знішчыць нашу мову, наносілі па вышэйшых, асвечаных пластах беларускага народа.

Раздзелім некаторыя механізмы знішчэння мовы.

Найперш перайшлі з беларускай мовы на польскую магнаты і шляхта у XVII-XVIII ст. З другой паловы XIX ст. гэтыя ж пласты пераарыентаваліся на мову расейскую.

Не гледзячы на гэта, беларуская мова працягвала развівацца, а часам і ўплываць на расейскую. Не выпадкова Тадэвуш Булгарын, абрусеўшы літаратар з апалячанай беларускай шляхты (дарэчы з албанскімі каранямі) у 1837 г. пісаў у часопісе "Северная пчела" (Пецярбург):

"Дойдзе да таго, што ў нас пачнуць пісаць беларускай гаворкай, як пры цары Аляксеі Міхайлавічы і каля гэтай эпохі".

Намаганні не выпусціць беларускую мову з-пад сялянскае страхі, каб на ёй ні вучылі, ні друкавалі, мела далёкасяжную мэту. А менавіта – раздзяліць беларускі народ, пазбавіць яго прыроднае сувязі між рознымі грамадскімі пластамі.

І за нашым часам мы назіраем такое: "Людзі, якія кажуць пра неканкурэнтаздольнасць беларускае мовы, спецыяльна прымяняюць супраць яе нецывілізаваныя метады. Яны не прымаюць надпіску на беларускія газеты і часопісы, не допускаюць беларускамоўныя выданні ў гандлёвую сетку і масавыя бібліятэкі памяншаюць наклады выданняў на беларускай мове, колькасць назоваў гэтых выданняў і г.д.

1 снежня 1994 г. прэзідэнт Рэспублікі Беларусь на сесіі Гомельскага гарсавета растлумачыў ягоным дэпутатам, чаму ён не гаворыць па-беларуску: "Людзі, каторыя гавораць на беларускай мове, не могуць рабіць нічога, як толькі гаварыць на беларускай мове. Таму што на беларускай мове нельга сказаць нешта вялікае. Беларуская мова – бедная мова. У свеце існуюць толькі дзве вялікія мовы – гэта руская і ангельская".

Варта нагадаць словы ангельскага гісторыка Т. Маколея: "Багатая і магутная (нямецкая – В.Г.) мова Лютэра, якая была выганаю з школ латынню педантаў і французскай – з палацаў, найшла сабе прытулак сярод народа. Аб моцы гэтае мовы Фрыдрых (II Пруск – В.Г.) не меў ані найменшага ўяўлення. І самая нямецкая мова, і тыя, хто гаварыў ёю, выклікалі ў яго пагарду невука".

Тым, хто лічыць беларускую мову няпоўнавартасную ў параўнанні з расейскаю (а я такое пачуў ад аднаго з заснавальнікаў так званага "Русско-Белорусского братства", якое ўтварылася ў Пецярбургу ўвосені 1998 г. дзеля прапаганды паглынення Беларусі Расеяю), варта было б прыгадаць тое, што калісьці пісаў А.С.Пушкін: "... Але вучонасць, палітыка і метафізічная мова ў нас зусім не існуе... Нашыя ляніўцы больш ахвотна выражаюцца моваю чужою, якой механічныя формы даўно гатовыя і ўсім вядомыя".

Калі расейская мова з недалужнай папялушкі расцвіла ў прыгажуню, то чаму б гэткай не стаць беларускай мове? Няўжо толькі таму, што гэтага не хочацца пэўным колам носьбітаў расейскае мовы?

А што да канкурэнтаздольнасці моваў, варта ўспомніць, што казаў выдатны дзеяч габрэйскага нацыянальнага адраджэння У. З. Жабацінскі каля стагоддзя таму назад: "Але навошта ігнараваць гісторыю і запэўніваць, нібы ўсё абыйшлося без кулака і нібыта поспехі расейскае мовы на пераферыі даводзяць унутранае бяссілле іншародчаскіх культур? Нічога гэтыя поспехі не даказваюць, акрамя старой ісціны, што падкаваным абцасам можна ўтаптаць найбольш жыццяздольную кветку".

### VI."ЗБЛІЖЭННЕ" І "ПРЫПАДАБНЕННЕ"

Адною з догмаў XIX ст. было сцверджанне аб зліцці народаў у адзіную ўсечалавечую нацыю з агульналюдской моваю. Увасабляць гэтую догму у жыццё ўзялася Камуністычная партыя Савецкага Саюза.

У 1950 г. таварыш Сталін напісаў, што "мы будзем мець справу не з дзвюма мовамі, (...) а з сотнямі нацыянальных моваў, з якіх у выніку доўгага эканамічнага, палітычнага і культурнага супрацоўніцтва нацыяў будуць выдзяляцца спачатку найбольш узбагачаныя адзіныя занальныя мовы, а потым занальныя мовы зліюцца ў адну супольную міжнародную мову, (...) якая (...) будзе новай мовай, што ўбярэ ў сябе найлепшыя элементы нацыянальных і занальных моваў".

Такім чынам, згодна з меркаваннем І.В.Сталіна, адна з прадбачных ім моваў павінна была паўстаць у СССР. Само сабою зразумела, на аснове расейскай мовы.

Русіфікацыя беларускай мовы пачалася раней за выхад у свет працы І. В. Сталіна па пытаннях мовазнаўства. На пачатку 30-х гадоў камуністычная партыя пачала наступ на адметнасці беларускае мовы. Ва ўступе да ўрадавага дэкрэту "Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу" з 28 жніўня 1933 г. казалася, што "нацыяналдэмакратызм (г.зн. нацыянальна арыентаваная плынь беларускай інтэлігенцыі – В.Г.) імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, стварыў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і засмечваў беларускую мову рознымі сярэднявяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі".

Дэкрэтам паўсюдна ўводзілася "наркомаўская" (ад слова наркамат – народны камісарыят, г.зн. адпаведнік міністэрства асветы – В.Г.) форма беларускай мовы згодна русіфікацыйным прынцыпам. Рэформаю, як і ўсёю далейшаю камуністычнаю моўнаю палітыкаю беларуская мова механічна набліжалася да расейскай мовы.

Гэты працэс добра асвятліў выдатны беларускі мовавед Станіслаў Станкевіч у сваёй надрукаванай у 1962 г. працы "Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу", якая была перавыдадзена асобным выданнем Таварыствам беларускае мовы ў 1994 г.

Згодна з рэформай 1933 г. у беларускую мову было уведзена каля трыццаці фанетычных і марфалагічных асаблівасцяў, чужых нашай мове.

Паступова ў беларускую мову пачаў уводзіцца расейскі слоўнікавы матэрыял. Уводзіліся марфалагічныя, сінтаксічныя і фразеалагічныя асаблівасці расейскае мовы, якія падрабязна разгледжаныя Ст. Станкевічам.

Дэфармаваліся тыя лексічныя і фразеалагічныя адзінкі, якія закраналі працэсы, што былі накіраванымі супраць беларускай нацыі і мовы. Не ўжываліся словы тыпу "дэнацыяналізацыя", "асіміляцыя", "русіфікацыя" і г.д.

Ужываннем словаў кіравалі адпаведныя ўстановы. У выніку мова была зменшанай да газетнага слоўніка, як музыка да маршаў і гімнаў, а жывапіс да плакатаў.

Пры дапамозе жыварэзання мовы спрабавалі зрабіць беларускую мову бляклай копіяю расейскае. Копія заўсёды горшая за арыгінал. Таму ад яе адмаўляліся, тым больш, што арыгінал заўсёды быў да паслугі: "Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин", як сцвярджаў Маякоўскі.

"Зліццё" і "прыпадабненне" моваў прывяло да росквіту моўнае хімеры "трасянкі". У ёй беларуская і расейская мовы перамешваюцца не да пазнання.

З часам "пазычанае" пачынала ўспрымацца як сваё, а сваё выштурхоўвалася з мовы.

### VII.НЕГАТЫЎНАЕ СТАЎЛЕННЕ ДА НОСЬБІТАЎ МОВЫ

Згодна з русіфікатарскай палітыкай М. М. Мураўёва – "Вешальніка", які тлуміў паўстанне 1863 г., настаўнікі – беларусы і спольшчаныя беларусы заменяліся запрошанымі з Расеі настаўнікамі. Пра гэта сведчыць апякун навучальнай акругі пры Мураўёве Карнілаў.

Такое адбывалася згодна выдадзенымі Мураўёвым 1 студзеня 1864 г. "Временными правилами для народных училищ северо-западных губерний". Падобная практыка працягвалася ва ўвесь час панавання царызму над Беларуссю.

Не лепшым былі адносіны польскага ўраду да носьбітаў беларускае мовы ў 1920-1930-я гг., асабліва пасля ўвядзення ў сілу "моўнага закона" 1924 г.У патаемным дакуменце наваградскага ваяводы ад красавіка 1939 г. ставілася задача "абсалютнага выэлімінавання няпольскага элементу з настаўніцкіх становішчаў", "абмежавання да мінімуму прыняцця да сярэдніх і ліцэальных школаў непольскага элементу", а з 1937 г. праводзілася ачышчэнне ад беларусаў персаналу ўрадаўцаў у самаўрадзе.

Падобная палітыка праводзілася і ў Савецкай Беларусі: калі рэпрэсіўнымі метадамі, калі больш прыхавана.

### VIII. АСВЕТА – ПЯРЭДНІ РУБЕЖ ЗНІШЧЭННЯ.

Чыя асвета, таго і мова. Гэтую даўнюю ісціну добра ведалі тыя грамадскія сілы, якія кіраваліся мэтаю выцяснення беларускае мовы з ужытку.

"Канчатковая мэтаю асветы ўсіх іншародцаў, што пражываюць у межах нашае Бацькаўшчыны, несумненна, павінна быць АБРУСЕННЕ (падкрэслена мною – В.Г.), — так пісаў у 1870 г. міністр асветы Расеі Дз.Талстой. Менавіта праз асвету ішоў галоўны кірунак удару па нашай мове.

Па гэтым пытанні ў гісторыкаў БССР адбываліся спрэчкі Так, П. Ц. Петрыкаў ставіць пад сумненне сэнс русіфікацыі, нібыта не ведаючы словаў і справаў Дз.Талстога, Карнілава і іншых абрусіцеляў Беларусі.

П.Ц.Петрыкаў ставіць гэтае слова ў двукоссе, нібыта ніколі не існаваўшае. У выглядзе доказа адсутнасці існавання русіфікацыі гэты гісторык прыводзіць стварэнне на Магілёўшчыне і Віцебшчыне Беларускага генерал-губернатарства, а "такія адносіны Расеі да Беларусі ніяк не назавеш "русіфікацыяй" (нібыта прыведзены факт мае нейкае дачыненне да сапраўднай русіфікацыі).

Русіфікацыяй П. Ц. Петрыкаў не лічыць увядзенне ў выкладанні ў школах Беларусі расейскай мовы. Ён спрабуе даказаць, што "літаратурнай мовы на той час (сярэдзіну XIX ст.- В.Г.) не было, як не мелася і беларускай інтэлігенцыі (...). Не было беларускіх настаўнікаў, падручнікаў, беларускіх выдавецтваў і іншых атрыбутаў нацыянальна-культурнага жыцця" (нібыта гэта перашкаджала царскай ўладзе пры жаданні ўводзіць беларускую мову навучання – была б толькі ахвота!).

Далей ідзе дзіўны пасаж гісторыка: "Калі ўсё гэта было напрацавана Дуніным-Марцінкевічам, Багушэвічам, Цёткай, Купалам і Коласам (...), тады "русіфікацыя" уступіла месца беларусізацыі".

Тут робіцца вядомая ў логіцы памылка: "Пасля гэтага -- не значыць у выніку гэтага". П.Ц.Петрыкаў добра ведае, што беларусізацыя пачалася зусім не таму, што з'явіліся беларуская літаратура, настаўнікі, падручнікі, выдавецтвы, а таму, што беларуская інтэлектуальная эліта гэтага ПАТРАБАВАЛА, але мела перашкоды з боку царызму. І толькі пад нямецкай акупацыяю з'явіліся беларускія школы ў Заходняй Беларусі. А ва Усходняй Беларусі яны з'явіліся толькі пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ва ўмовах той жа самай нямецкай акупацыі.

Так што беларусізацыя змяніла сапраўдную русіфікацыю, а не "русіфікацыю" у двукоссі. І зусім не па тых прычынах, на якія спасылаецца П. Ц. Петрыкаў.

Больш блізкі да ісціны А.В.Залескі, калі ў адказ П.Ц. Петрыкаву ён нагадаў таму "агульнавядомае палажэнне пра тое, што ў апошнія стагоддзі заваёўнікі часцей за ўсё распаўсюджвалі дзяржаўны статус сваёй мовы на падпарадкаваныя ім новыя тэрыторыі".

А.В. Залескі ўказвае на яшчэ адно памылковае сцвярджэнне П.Ц. Петрыкава, нібыта ў XIX ст. не было беларускай літаратурнай мовы, прыгадваючы тое, што яна існавала ўжо ў XVI-XVIII ст., а ў пачатку XIX ст. склалася і новая беларуская літаратура.

А.В.Залескі прыгадвае вядомы факт, што "пры ўсім гэтым беларуская мова не дапускалася ў дзяржаўную сферу, не было беларускіх школ, хоць знайшліся б і настаўнікі, і маглі б быць складзеныя падручнікі".

Гэты гісторык лічыць нібыта сярод іншых "далучаных да Расейскай імперыі краін русіфікацыя "найменш адмоўны ўплыў аказала на беларусаў". Пры гэтым не прыводзіцца, якою меркаю адмяралася аўтарам нататак ступень адмоўнасці (ці станоўчасці?) русіфікацыі беларусаў. Гэта як з напоўненай да паловы плынню шклянкаю, як яе лічыць напоўпоўнай або напоўпустою?

Бо русіфікацыя бывае нібы праўда: або яна ёсць, або яе няма. Напоўрусіфікацыі, як і напоўпраўды не бывае.

*(Працяг у наступным нумары).*

# Звычайнае дзяцінства

Павел Саўчанка

Дзяцінства маё прайшло ў невялічкай, на 13 хат, вёсцы, якая знаходзілася ў баку ад бальшакоў на невысокім узвышшы з трох бакоў акружаная доўгім (на 3 км) вузкім возерам, а з чацвёртага боку да вёскі туліліся хмызнякі, балоты і кустоўе.

Апынуліся мы там пад час вайны, калі мая маці са мной і малодшым братам прыехала з Расонаў да свайго бацькі, майго дзядулі і бабулі перажыць небяспечны ваенны час. З Расонаў ехалі на калёсах праз лясы і балоты, ехалі на Казьяны вясковымі дарогамі, бо на Віцебска-Полацкай шашы рухаліся немцы. Гэтага ні я, ні мой брат ня памятаем, але ваенны час урэзаўся рознымі эпізодамі ў галовы.

У вёсцы стаялі немцы, жылі яны ў нашых хатах, а ўсім нам загадалі перабрацца ў лазні ці хлявы. Але перад гэтым яшчэ панаехала ў вёску шмат людзей з Шуміліна і іншых мясцін. Яны спачатку жылі па хатах. У Шуміліне стаялі немцы і яны загадалі многім жыхарам пакінуць свае дамы.

У хаце дзядулі з'явіліся два бабчыных браты з сем'ямі, у якіх было 6 дзяцей, а так як хата была малая і няма дзе было размясціцца, то дзядзькі зрабілі палаці (падбілі дошкі пад столлю і там мы, усе дзеці, спалі). Гэта была як бы шырокая нара пад столлю, куды мы лезлі паўзком. Мы, малыя, гулялі там у хаванкі.

Але так жылі нядоўга, праз некаторы час немцы загадалі пакінуць хаты, а многіх бежанцаў высялілі ў вёску, якая стаяла за возерам, на беразе, пры лесе. Гаварылі, што Ільінцы наведвалі партызаны, а немцы іх баяліся і таму перасялілі туды бежанцаў. Нашы вясковыя людзі, туліліся, дзе хто мог. Дзядулі далі дазвол жыць у хляўчуку, але не ў сваім, а ў суседзкім, які стаяў на самой гары. Дзед з бабуляй выкінулі гной, занеслі пяску, замест падлогі палажылі некалькі дошак, каля сцяны палажылі матчын матрац, які яна набыла ў Расонах на першыя свае заробкі. На гэты матрац палажылі набіты саломай сянік і ўсе мы спалі тут. Дзед знайшоў недзе жалез-ную круглую буржуйку, правеў у вакенцы якое было каля 40х40 см. Буржуйку палілі ў прыцемках, а днём сядзелі ў хляўчуку і глядзелі ў вакенца.

Стаяла зіма. Возера замерзла, перад нашым жыллём, на другім беразе возера стаяла царква (по-тым яе знішчылі партызаны) і крыху далей ішоў бальшак на Бешанковічы, па якім рухаліся падводы, ішлі людзі.

Вельмі хацелася на вуліцу. Але дарослыя не пускалі. У нашых хатах жылі немцы. Якія гэта былі часткі, я не ведаю, але, мне здаецца, што яны штосьці абслугоўвалі, бо баі ішлі дзесьці за Шумілінам (там была лінія фронта), грымела на чыгунцы Віцебск-Полацк.

Помню каменданта вёскі, які прыходзіў на гару, дзе заканчывалася вёска і стаяў хляўчук, у якім мы месціліся. Тут і раней заўсёды збіраліся вяскоўцы, бо з гэтага месца можна было бачыць вёску, якая была на другім беразе возера, бальшак і далёкія вёскі. Гэты немец заўсёды прыходзіў з чорнай дрэсірованай аўчаркай (вучоная, як казалі). Ён браў у рукі палку, кідаў яе ў возера, а аўчарка бегла, выцягвала палку і несла гаспадару. Гэтага немца баяліся ўсе, асабліва дзеці.

У дзедавай хаце размешчан быў часовы лазарэт, а па агародзе быў выкапаны грунт і пабудаван з бярвення бункер, у якім зрабілі кухню. Тут гатавалі ежу для немцаў, якія жылі ў нашай вёсцы і вазілі яшчэ на калёсах у другую вёску ці іншыя месцы. Нам, малым было страшна цікава ўсё ведаць. Калі я аднойчы забег на дзедаў двор, то пажылы немец-кухар падхапіў мяне на рукі і ўнёс у хату, падняў пад столь. У хаце былі зроблены драўляныя нары, на якіх ляжалі паўапранутыя раненыя немцы. Мне стала жудасна ад бінтоў, крыві, кухар мяне выпусціў і я стрымглаў пабег да хлява, дзе яшчэ атрымаў ад дзеда дзяжкай.

Мужчын у вёсцы амаль не было, а тыя, што засталіся здаваліся мне вельмі старымі – усе былі з барадамі, пячэсаныя, зарослыя, хаця ім, як і майму дзеду не было яшчэ і 50 год. Бабулі і жанчыны хадзілі ў нейкіх лахманах і толькі шмат пазней мне гаварыла цётка, што так яны пазбягалі прыставанняў з боку немцаў і асабліва паліцыянтаў.

Маладыя мужчыны пайшлі хто ў партызаны, хто ў паліцыю, у Чырвоную армію апрача майго бацькі трапіла яшчэ чалавек 3-4, а некаторыя заставаліся ў вёсцы, прыкінуўшыся старымі і нямоглымі. Помню, што аднаго такога ноччу вывелі партызаны і расстралялі разам з жонкай.

Маладых жанчын, дзяўчат пачалі немцы адпраўляць на працу ў Германію. Гэтыя эпізоды адпраўкі людзей запомніліся добра. Кожную раніцу зганялі людзей на пляцоўку перад дзедавай хатай пад бярозку, шыхтавалі ўсіх і рабілі праверку. Старых адганялі дадому, а моладзь напраўлялі на розныя работы (жанчыны капалі акоп, які акружаў па перыметру вёску, некатарым загадвалі збірацца і рыхтавацца да адпраўкі ў Германію. Не памятаю, які гэта быў час, але аднойчы дзед пачаў збіраць клунак для цёткі, якой было ці не 21-22 гады. Яна потым капала акопы з брыгадай моладзі і дайшла з немцамі да Прусіі, Кенігсберга. Выкапаючь акопы, немцы з іх пачынаюць страляць па чырвоных, а калі тыя іх выбівалі, то з гэтых акопаў стралялі па немцах. Немцы гналі наперадзе моладзь, якая зноў капала пад кулямі акопы.

Цётка перажыла вялікае гора, і ў пасляваенны час яе жыццё таксама было нялёгкім. Надарваўшыся ў маладосці і пасляваеннай прпацай у калгасе яна апошнія 10 год была прыкавана да ложка, суставы і косці ног і рук не павыкручіліся і яна ў пакуце і адзіноце адышла ўжо каля 7 год таму. Я вельмі шкадую, што мала ўдзяляў ёй увагі, не ўсё распытаў аб яе ваенным жыцці, аб тых часах, аб нашых продках. Цётка мая была адукаваная, яна яшчэ да вайны вучылася ў кааператыўным тэхнікуме, пасля вайны ёй патрэбна было здаць дзяржаўныя экзамены, але тэхнікум быў пераведзены з Віцебска ў Горадню і дзед, не маючы аніякіх сродкаў, не пусціў дачку ў Горадню, ды ён і не жадаў, каб яна адышла з хаты, а хацеў, каб яна даглядзела б яго з бабуляй і жыла на гаспадарцы. Цётка ўсё жыццё шкадавала, што яна паслухалася бацьку і засталася ў калгасе, дзе канчаткова падарвала бясконцай працай здароў'е і яе сямейнае жыццё было гаротным і не доўгім.

Маці мая ратавалася ад Германіі, як магла. Мя-не тады здзіўляла, што на ранішнюю праверку яна выходзіла вымазаная сажай, мне казала, каб я трымаўся дзвюма рукамі за яе спадніцу і плакаў, нават калі табе гэтага не хочацца, а калі не буду плакаць, то яна абязвяцала мне надаваць тумакоў. Палохала аўчаркай. Малодшага брата, а ён быў хваравіты і невялічкі ростам, яна заматвала ў дзяружку, брала на рукі і мы стаялі пад бярозкай з вяскоўцамі і чакалі прысуду. Мне хацелася не плакаць, а назіраць за немцам і яго аўчаркай. Маці, як толькі набліжаўся да нас немец, шчыпала за задніцу брата, а мяне цягнула за вуха. Мяне гэта бянтэжыла і я пачынаў раўці, а брат ціха ўсхліпваў у лахманах. Немец аказваўся побач з маці ў бліскучых ботах, у руцэ трымаў палачку, якой сцябаў сябе па халявах, аўчарка сядзела побач і назірала за яго рукамі, немец глядзеў на маці, а тая, схіліўшы твар да брата, казала: — main kinder ist krank (маё дзіця хворае), немец падымаў руку з палачкай і казаў – weg, nach haus. І маці хуценька бегла да хляўчука, дзе яе чакала збялелая бабуля і перапужаны дзед. Але маці і другія жанчыны, у якіх былі такія ж дзеці, працавалі днём. У вёсцы стаяла канюшня, якая была невялікай, напэўна, належала суседу, але ў перадваенны час стала калгаснай. Жанчынам загадалі выкінуць гной, пабяліць сцены. Былі пастаўлены кросны і калаўроткі. Дык вось гэтыя жанчын адны пралі кудзелю на калаўротках, а другія пасля апрацоўкі нітак ткалі льняныя палотны. Гэтае льняное палатно, тыпу ручніковага, неадбеленае, немцы забіралі і кудысьці адпраўлялі.

Мы дзеці, часта бегалі ў канюшню глядзець, як працуюць нашыя маці. Мне здавалася, што ў канюшні многа жанчын, калаўротаў і кроснаў. Усе працуюць, а мы глядзелі, разявіўшы ра-ты. Аднойчы гэта заўважыў немец з аўчаркай (ён быў як бы камендант вёскі) і на нас пачаў крычаць і махаць палкай. Мы ў страху разбегліся і нас не выпускалі з жылля.

Яшчэ адзін цікавы эпізод. Кухня, якая была на дзедавым агародзе, прыцягвала нас тым, што кухар часта даваў нам нешта з ежы, якая аставалася пасля кармлення немцаў. У нейкія бляшанкі ці жбаны ён клаў кашу (белая манная) ці ліў суп, або чай. Кухар гэты быў, напэўна з нямецкіх сялян, бо тут каля кухні ў загародцы ён гадаваў курараў, трымаў куроў і вучыў вяскоўцаў саліць рыбу, якой жыхары карміліся. Можа ў яго засталіся дома дзеці, але мы яго не палохаліся. І вось аднойчы мы прыбеглі са жбанкамі на кухню, нікога не было, мы хутка налілі начаю, булёну і пабеглі незаўважаныя дадому. Мой брат таксама набраў чаю і булёну і, не закруціўшы кран, таропка збег. Булён і чай выцеклі з катлоў. Праз некалькі хвілін прыехала фурманка з бідонамі па ежу для немцаў, якія былі ў другой вёсцы. Ні супу, ні чаю не было. Падняўся вэрхал. Даняслі каменданту, які загадаў сабраць усіх дзяцей. Нас выгналі на гару, паставілі на калені, я стаяў першы, дзесьці ў сярэдзіне брат, а ўсяго было 10-12 дзяцей (самаму старэйшаму можа 9-10 год было) і камендант у чорных скураных пальчатках з палачкай, выходжваючы ўзад і ўперад перад намі дабіваўся прызнання. Мы стаялі на каленях схіліўшы галовы, і бачылі толькі бліскучыя халявы, усе раўлі і гаварылі, што гэта не мы зрабілі. Прахаўшы палкай па нашых плячах, нас адпусцілі, нашы перапалоханыя маці назіралі праз шчыліны канюшні за гэтым, дома мы атрымалі і ад іх лупцоўку, а я асабіста і ад дзеда. Вечарам мой брат расказаў дзеду, што немец хоць і даў яму палкай і было балюча, а ён не заплакаў і не прызнаўся, што ўсё гэта зрабіў ён. І расказаў, як гэта было. Дзед з бабуляй былі страшна перапалоханы і мой брат ужо доўга сядзеў у хляўчуку, яго не выпускалі на вуліцу, кажучы ўсім, што ён хворы.

Запомнілася добра, як звечара ў прыцемках мы беглі хавацца ў жыта ,а раніцой даведаліся, што немцы ўцяклі, а ў вёсцы ужо чырвонаармейцы. Немцы ўцякалі хутка, раптоўна, і тое, што яны пакінулі, як нам казалі салдаты, магло быць атручаным, ці заміна-ваным. Усё нямецкае было забрана чырвонаармейцамі.

Дзеці радасныя бегалі па вуліцы, збіралі гільзы ад патронаў, розныя рэчы.

У 1945 годзе я пайшоў у школу, якая адчынілася ў 1944 годзе ў другой вёсцы за возерам. Сядзелі мы за самаробнымі сталамі ў хаце, якая аказалася пакінутай. Дзеці былі розных узростаў, бальшыня галодных і неапранутых. Ад Вялікадня да Пакрова ўсе хадзілі басанож і настаўніца таксама, бо ў кожнай хаце вайна пакінула след – загінуў бацька ці маці, ці абодва, ці згарэла хата, жывёлы ніякай (немцы яшчэ перад адступленнем усё забралі).

Пачалі адбудоўвацца. Лазні, хляўчукі перараблялі у хаты (маленькія, з падслепаватымі вокнамі, крытыя саломай, ці чаротам). У хатах холадна, палілі печы хмызняком, які вазілі на саначках з кустоў'я. Зімы былі вельмі сцюдзёныя і снежныя, а вясной і восенню дарогі танулі ў гразі, якая была літаральна да калена.

Сярэдняя школа знаходзілася за 8 км, а сямігодка за 5 км у другім баку. Падручнікаў не было (1-2 на клас). Сшытак убачыў толькі ў другім класе. Пісалі на старых газетах, старых папяровых мяшках, што засталіся ад немцаў. Пісалі алоўкамі ці драўлянымі ручкамі, якія рабілі з галінак, пяром – зорачкай. Чарнілами служыў сок ягад крушыны ці чырво-ных буракоў. Гэтыя чарнілы насілі ў бутэлечках з-пад лекаў, якія знаходзілі на месцы нямецкай аптэкі.

Сяляне зноў сталі працаваць у калгасе. З Германіі прыгналі і далі калгасу некалькі кароў, гусей, а з фронта – каля 10 коней, якія былі як і людзі галодныя і хворыя. Ніякай тэхнікі, ніякіх машын мы не бачылі, апрача самалётаў на прыканцы вайны, якія называліся аэрапланамі ці бамбавозамі.

Цётка вярнулася з Германіі, бацька з фронта і стаў працаваць у раённым цэнтры ў сельскагаспадарчым упраўленні. Жыхары рыдлёўкамі закопвалі акопы, якія прайшлі па агародах, нямецкую кухню разабралі суседзі і збудавалі з яе хату. Яму трэба было закапаць, што мы і рабілі. Дзядуля, які ўсю вайну сядзеў у вёсцы, пасля "освобожденія" быў забраны ў працоўную армію. Ён недзе за Воршай на Смаленшчыне касіў сена, харчоў ніякіх, спалі ў буданах, там атрымаў адкрытую форму туберкулёзу – сухоты, якія яго зрабілі інвалідам і даканалі ў 1957 годзе. Памёр ён 60 гадоў ад роду, вельмі стомленым, старым, нямоглым. Нагадваў ён старога ва ўзросце 90-95 год. Хутка адышла і бабуля.

Усе павінны былі працаваць у калгасе. У 1945-46 годзе кожная калгасніца павінна была ўскапаць рыдлёўкай да 10 сотак калгаснага поля. Залічваўся за гэта працадзень, а іх трэба было зарабіць за год болей 250. Толькі тады ты лічыўся сапраўдным грамадзянінам, а так ты быў абібокам ці здраднікам.

Стомленыя і галодныя жанчыны вярталіся да хаты, дзе іх чакалі галодныя дзеці і свае някопаныя агароды. Я быў сведкам, як збіраліся 7-8 жанчын, запрагаліся ў плуг і па чарзе аралі свае агароды, нешта сеялі і вырошчвалі. Мая маці станавілася ўперадзе плуга з жанчынамі і цягнула плуг, а яе сяброўка ішла за плугам і жартаўліва пакрыквала на іх, як на коней, каб ішлі роўна і не крывілі барозны. Так аручы, яны яшчэ і жартавалі, нас малых, прымушалі граблямі баранаваць. Касілі сена, жалі збожжа жанчыны рукамі. Мужчын вярнулася з вайны мала. Тыя, хто ў час вайны адседжваўся дома ці быў у паліцыі і не адышоў з немцамі – былі сасланы ў Варкуту, на Поўнач.

А якія былі вялікімі падаткі для сялян. Маеш ты жывёліну ці не, здай дзяржаве яйкі, воўну: 100 яек, 15 кг масла, 300 літраў малака (для тых, хто меў карову ці цялушку) сала, мяса (не помню колькі), каля 600 рублёў (старымі дарэформеннымі 1947 года) за зямлю, вішнёвыя, слівовя дрэвы і яблыні, нават калі яны стаялі ўсохшыя і не давалі пладоў. Усё было абкладзена падаткамі. Было жудасна бачыць, як ноччу ўзімку, у завею дзед браў пілу і ся-керу і пілаваў дрэвы, а на нашае пытанне, чаму ён так робіць, адказваў, што не-чым паліць печ і мы можам замерзнуць. Але гэта рабі-лася ў кожнай хаце. Рабілася таемна, каб ніхто не бачыў, не маглі данесці, бо за гэтую хітрасць можна было тра-піць на Салаўкі (як казаў дзед).

Ацалелыя за вайну сады былі вынішчаны да 49-50 года. Схілы нашай гары былі зарослымі вішнёвымі дрэвамі, цяпер яны стаяць лысымі без адзінага кусціка. За працу ў калгасе людзі не атрымлівалі ніякіх грошай і грашовыя падаткі былі вельмі цяжкімі для сялян. Дзеду трэба было заплаціць 600 рублёў, яму дапамагала мая маці з бацькам, якія мелі дзяржаўную працу, а астатнія сяляне збіралі ягады на продаж, што вырошчвалі на сваіх агародах – неслі на кірмаш. Шклянка суніц ці чарніц, або вішань каштавала 20 капеек. 1 метр паркалевай тканіны ў краме – 20-30 рублёў, пальтовага драпу – 200 рублёў.

На пасляваенных кірмашах было шмат прадуктаў, болей чым у сучасных вясковых крамах, на кірмашах прадавалася ўсё, як і цяпер, асабліва шмат вырабаў з дрэва (бочкі, бочачкі, маслабойкі, калаўроты, драўляныя вёдры, дзежкі, сані, аглоблі і дугі, сена, дровы, гаршкі, збаны, лямпы-капцілкі зробленыя з нямецкіх гільзаў. Ня глядзячы на такі базар – і вёска і горад галадаў.

У волю на вёсцы елі толькі на Вялікдзень і на Каляды.

(Заканчэнне на ст. 7)





Павел Саўчанка

# Звычайнае дзяцінства

Вечарамі сядзелі пры лучынах, якія ўтыкалі ў сцяну, запальвалі, а на падлогу пад лучынай ставілі шайку з вадой. Керасінавыя (газавыя) лямпы былі рэдка ў каго, бо газу (керасін) давалі па картачках (а гэта значыць, што не ўсім, вельмі абмежавана), ды і грошай не было выкупіць сваю пайку. Мыла варылі жанчыны са здохшых жывёл. Мыла было чорнае і смярдзючае, больш карысталіся пры мыцці лугам (вывырывалі попел у вадзе і гэтай мылкай вадой карысталіся). У хатах было многа клапоў, блох, а летам чорна ад мух. Доўгімі чорнымі вечарамі людзі збіраліся па хатах (як казалі – пойдзем на сяло, пасядзелкі), некаторыя жанчыны упоцемку вязалі з суровых нітак панчохі і шкарпэткі, пралі з вяровак абутак тыпу лапцей, пралі і г.д. З воўны ніхто нічога не рабіў, бо авечак займелі пазней.

На гэтым сяле гаварылі пра навіны,успаміналі вайну, загінуўшых, жанчыны-гаротніцы, мужы якіх згубіліся без вестак усё яшчэ спадзяваліся, чакалі, расказвалі адна другой сны і разгадвалі іх. Гаварылі – а можа мой яшчэ прыдзе, а недзе ён лечыцца ці заброджаны. Яны пакутавалі больш за тых, чые мужы загінулі на фронце і яны мелі на гэта нейкія паперы. Без вестак прапаўшых часта лічылі здраднікамі, ці, не дай божа, уцекачамі. Такім сем'ям не было ніякага спадзявання на нейкія палёгкі. Я бачыў, калі за няўплату падаткаў у суседкі забіралі парсюка і старую фанерную пустую шафу. У вёску прыходзілі фінработнікі апісваць маёмасць сялян. Гэта былі жахлівыя моманты, у хаце стаяў лямант і плач. Слёзы не дапамагалі.

Жывёла калгасная стаяла па сялянскіх хлявах, яна часта ад голаду і холаду гінула. Ужо з ражства (студзеня) каровам давалі толькі салому, знятую са стрэх хат, ці галінкі кустоўя, якія прыносілі з лесу.

Вясной, калі выжывала такая худоба, яе падымалі гуртом людзей і выводзілі ў поле. Такіх кароў я нядаўна бачыў па тэлебачанню на дарогах Індыі і ў паўднёвым Судане.

Жывёла гінула. Пры райцэнтрах збоку каля лесу стаяла салатопка, куды звозілі здохшых ад голаду жывёл. Там здымалі з яе скуру, а тое, што было пад скурай кідалі ў вялікія катлы і вываравалі, атрымаўшуюся масу (саламас) адпраўлялі ў Віцебск ці Гомель, дзе з гэтага рабілася мыла.

Збегчы з такіх вёсак людзі не маглі, яны не мелі ні пашпарту, ніякіх дакументаў. Калі табе трэба было ехаць у Віцебск, па якіх небудзь неадкладных справах, то ты павінен схадзіць у сельскі савет, доўга там тлумачыць мэту паездкі і тады табе давалі даведку, папяровую кантычку – жыхар такі і такі, прозвішча такое, працуе ў калгасе такім, на тэрыторыі сельсавета такога. Гэта быў часовы пашпарт.

Пры такім жыцці дзеці стараліся пры магчымасці вучыцца добра, асабліва дзяўчынкі, бо хлопцы павінны былі ў абавязковым парадку ісці служыць у армію, пасля якой ніхто з іх не вяртаўся ў вёску, а асядалі ці ў Данбасе, ці на будоўлях Віцебска, Масквы. Дзяўчаты ішлі вучыцца далей, рэдка ў тэхнікумы ці вузы, бо не было матэрыяльных магчымасцей, а бальшыня ў ФЗУ пры якіх-небудзь фабрыках ці заводах і там асядалі. Але і гэтага трэба было яшчэ дабіцца бацькам. Яны доўга хадзілі ў сельсавет, уцішку давалі гарэлку ці сала, слёзна выпрашвалі даведкі-дазвол на вучобу дачушцы, бо яна, маўляў, хваравітая і працаваць на зямлі не можа, а вучыцца хоча.

Наша вёска, як і іншыя, апусцела вельмі ў 1954 годзе, калі прагучаў прызыў асвоіць цалінныя і абложныя землі ў Казахстане. Пасля гэтага яна стала паступова і няўмольна паміраць. А жыццё ішло. У 1957 годзе ў вёсцы паставілі слупы нацянулі драты і да 40 годдзя Вялікага Кастрычніка правялі ўсім калгаснікам радыё. На сцены былі павешаны чорныя талеркі-радыёкропкі і людзі сталі даведвацца пра жыццё, якое адбывалася далёка за іх вёскай.

Гаварыць можна доўга, але не буду, нагадаю момант, калі вучыўся ў 7 класе. Страшэнная навіна – памёр Сталін.

Дырэктар вывеў усю школу на двор, зачытаў нейкія паперы, ацупянелі ўсе – настаўніцы і настаўнікі , дзеці, пачаўся плач старэйшых, потым зараўлі малодшыя. Адпусцілі дадому. Мы прыйшлі да хат у смутку, у слязах, такое ўражанне, што прыйшоў канец свету, вёска анямела: што будзе? Што рабіць? Ці будзем жывы? А што будзе з нашымі дзецьмі? Той свой стан я перадаць не магу сёння – не хапае слоў.

Людзі так не плакалі і не шкадавалі сваіх блізкіх. Гэта быў усеагульны псіхоз. Я і сам перажываў страшэнна і не бачыў ніякага выйсця, гэта быў страшэнны стрэс.

Сёння я далёка ад сваёй вёскі, не быў там ужо каля 8 год. З 13 даваенных хат засталося толькі 8, у чатырох з іх жывуць людзі, усяго ў вёсцы зараз 7 чалавек. Самы малодшы – мае 66 год, ён трымаецца добра, бо не п'е і ня курыць, лю-біць зямлю і гаспадарку, жыве, можна сказаць, добра, але ці шчаслівы? Смела скажу, што не. Астатнія 2 мужчыны і 4 жанчыны дажываюць і працуюць так як, і пасля вайны. Дзеці збеглі, абслугоўваць і даглядаць сябе павінны самі. Вакол сіроцтва і галеча. Але жыхарам нічога ўжо не трэба. Некаторыя сяляне збеглі з вёскі і дзякуючы гэтаму яшчэ захаваліся, некаторых згубіла гарэлка, некаторыя яшчэ раней з'ехалі на будоўлі маладзёжныя ці шахты. Пра іх не чутно нічога. Па сваім узросту яны яшчэ павінны жыць. Што бачылі, што атрымалі ад жыцця --мяркую таксама, што нічога добрага.

Могілкі, якія на ўзгорку ў пачатку вёскі, зараслі травой, бярозкі паваліліся ад старасці і струхнелі. Бальшыня могілак – земляныя пагурчкі, паросшыя пясчанай асакой і лугавым пятлюжнікам. Некалькі дарэвалюцыйных жалезных каваных нахіліўшыхся крыжоў, сярод якіх адзін стаіць на адкосе ў баку і на якім мы ў дзяцінстве спрабавалі свае сілы – ці лагнецца пад нашымі рукамі. Не так даўно даведаўся, што пад крыжом ляжыць мой прапрадзед, тут жа магілы прадзеда і прабабы, дзеда і бабулі, маці і бацькі, і цёткі з яе дзяўчынкай немаўляткай.

Помнікаў шыкоўных няма, калі вёска крыху зажыла лепей у канцы 60-70- гадоў, ставілі помнікі з крошкі ў выглядзе ветразя. Рабіліся гэтыя страшэнныя помнікі-ветразі ў мясцовых промкамбінатах і, дзякуй богу, што яны ужо асыпаюцца. Мае родныя маюць металічную агарожу, можа дзякуючы ёй магілы яшчэ праіснуюць і я змагу з'ездзіць і папрасіць прабачэння ў дарагіх цяпер для мяне людзей.

Чуў, што некалькі год назад гэтую металёвую агародку хацелі зняць хлопцы – лайдакі з другой вёскі на метал, якім гандлююць у апошнія гады і толькі былая сяброўка маці прадухіліла зняцце гэтай агарожы. Тут ляжаць знаёмыя і незнаёмыя, працавітыя і не зусім, добрыя, шчырыя і іншыя людзі, на долю якіх выпала вельмі многа цяжкасцей і страт. Можа іх душы атрымаюць крыху ласкі і дабрыні?

З сумам заходжу ў вёску, з роспачай і болем пакідаю яе, а ў думках – заўсёды з её. Мяне так і цягне туды, хоць няма асаблівай прыгажосці, але адтуль я выйшаў, там я рос.

Беларусь – 2000 гадоў

# ШТО МОЖНА БЫЛО ПАБАЧЫЦЬ І ПАЧУЦЬ АБ ГАБРЭЙСКАЙ КУЛЬТУРЫ ЗА АДЗІН ДЗЕНЬ

На вялікі жаль, уступаючы у III тысячагоддзе новай эры, мы беларусы не можам ганарова пахваліцца перад усімі народамі свету той скарбонкай культуры, якую стварылі нацыянальныя меншасці, жувучы доўгія стагоддзі сярод нас, у тым ліку і габрэі. Вядома гэтаму паспрыялі аб'ектыўныя палітычныя прычыны, якія не дазвалялі беларускім вучоным на працягу аж двух стагоддзяў занатоўваць габрэйскі фальклор. У той час нацыянальную адметнасць габрэйскай культуры можна прасачыць нават у нашы дні і гэта прадстаўляецца магчымым не гледзячы на жахлівае вынішчэнне габрэяў у час апошняй вайны. Каб не быць галаслоўным павядзём гаворку аб адбітку габрэйскай культуры на Жлобіншчыне, аб якой нам удалося выпадкова даведацца праехаўшы некаторымі вёскамі раёна за адзін дзень.У гэтым раёне сваімі адметнымі рысамі вылучаўся вусны фальклор і этнаграфія габрэяў, якія жылі ў Жлобіне і на вёсках: Казімірава, Стрэшын, Шчадрын, Лугавая Вірня, Перэвічы, Салтанаўка, Чырвоны Бераг… яшчэ да вайны. Нават у назве некаторых вёсак меўся адбітак габрэйскай мовы, напрыклад Эрштэрмай, якую цяпер замянілі на "Возражденіе". Габрэі тут працавалі: шаўцамі, шорнікамі, краўцамі, кавалямі, аптэкарамі; займаліся дробным гандлем, рамінізніцкім промыслам, агародніцтвам, рабілі сыры. Некалі цікавы падзел наглядаўся ў родзе заняткаў жанчын Жлобіншчыны. Так, беларускі займаліся ў асноўным ткацтвам, рускія стараверкі – вышыўкай, а габрэйкі – вязаннем – майстравалі карункі. У Шчадрыне габрэі мелі вялізную бібліятэку ў пачатку нашага стагоддзя, некалькі сінагог і малітоўных дамоў. Хоць у вёсцы зараз шмат старых касабокіх хат, якія з'яўляюцца сведкамі мінулых часоў, але святыняў габрэйскіх не захавалася.

У вялікіх вёсках, што некалі лічыліся мястэчкамі, як Чырвоны Бераг, Шчадрын архітэктура старых пабудоў нагадвае аб адметнасці дзе жылі габрэі. Яны ў большасці будавалі свае хаты не перпендыкулярна вуліцы, як мясцовыя беларусы, а паралельна – з двума ўваходамі – адзін з вуліцы, другі – са двара. Такі тып пабудовы быў абумоўлены родам заняткаў – гандалем, дзе адзін уваход служыў для пакупнікоў, а другі – для сваіх гаспадарчых патрэб.

Некаторыя рамёствы, як ганчарства даюць права меркаваць, што некалі габрэі займаліся і ім. Ганчарны посуд да вайны лічыўся самым неабходным асартыментам у хатнім побыце сялян, але варта дадаваць нават яго чарапкі выкарыстоўваліся ў мясцовым пахавальным абрадзе габрэяў – іх клалі памерламу на вочы.

Некалі кожная беларуская жанчына павінна была не толькі ўмець ткаць палатно, але і пашыць бялізну для сябе, мужа, дзяцей. Прастата крою рабіла задачу пасільнай нават для самых нядатных да такога рамяства, а вось верхняе адзенне неслі да спецыяльных майстрыц – швачак, якія часцей за ўсё былі габрэйкамі. Праз некаторыя дэталі касцюма праяўлялася нацыянальная прыналежнасць чалавека. Так, беларускі насілі на галаве штодзённа хустку, на свята – намітку, а габрэйкі – шалік.

Раней жанкі спявалі без музычнага суправаджэння, а музыкі ігралі толькі танцы. На пытанне, а якія танцы ігралі перад вайной у гэтай мясцовасці называюць: полька, кадрыль, карабет, тустэп, кракавяк, вальс, лявоніха, серабранка, яблынька… І хоць моладзь заўсёды ўсіх нацыянальнасцей вясялілася разам, але былі свае любімыя танцы і ў габрэяў: сем сарок, радзэле.

Акрамя таго, што габрэі працавалі лекарамі, аптэкарамі меліся сярод іх і знахары, найчасцей тут прыпамінаюць, што яны здымалі "сурок". Мабыць яны мелі дачыненне і да лекавання такой страшэннай і рэдкай хваробы ў наш час, як "каўтун". Дыягназ хваробы меў дзве асаблівасці – "каўтун" казалі, калі валасы збіваліся суцэльным лямцам, а "каўтаніха" – асобнымі пасмачкамі. Стрыгчы нажніцамі такіх валос нельга і старыя прыпамінаюць, што некалі сяклі іх каменнымі нажамі. Можна меркаваць, паколькі каменнымі нажамі доўга карысталіся габрэі, выконваючы рэлігійны рытуал "абразанне", то, мабыць яны і адсякалі валасы каўтуна. Нам не вядома, якую пры гэтым мусіў казаць малітву знахар, але трэск па галаве каменных нажоў ці не ўплываў нейкім чынам дадатна на хворы нерв, які выклікаў такую хваробу.

І хоць усе застаўшыяся ў жывых пасля вайны габрэі вярталіся ў свае хаты – родныя гняздзечкі, але пасля вайны паўцякалі ў гарады. І ў той жа час ад старых тутэйшых беларусаў магчыма сабраць звесткі нават аб рацэптах страў габрэяў. Народная кулінарыя – таксама сур'ёзны аб'ект у справе навуковага даследвання культуры. Іх побыт жыцця, род заняткаў дазваляў больш увагі ўдзяліць прыгатаванню ежы ў параўнанні з беларусамі, якім даводзілася ад усходу сонца да заходу працаваць на полі, і калі, напрыклад, такую страву, як мачанка беларусы рабілі з свінога мяса і елі з аладкамі дзёртымі з бульбы, то габрэі елі з мучанымі, а рабілі яе з курынага ці трусінага мяса. Або сушылі сыр, разбівалі на кавалачкі, дадавалі смятаны, масла і тушылі ў печы.

Такім чынам, у народнай памяці нічога хутка не знікае і ўзнавіць звесткі аб фальклоры габрэяў зусім не цяжка нават у нашы дні. Толькі краты на вокнах у многіх хатах вёсак – яскравы напамін – старыя носьбіты і стваральнікі фальклору адыходзяць з жыцця, вёскі выміраюць ад Чарнобыля, урбанізацыі гарадоў, а праз 20 год тут ужо не будзе чаго шукаць.

*25.05.99г.*
*Жабінская Марыя.*

# А.Багдановіч – збіральнік перажыткаў

Адам Багдановіч увайшоў у пантэён беларускай культуры не толькі, як бацька Максіма Багдановіч. Асоба самога Адама Багдановіча цікавая ды значная сама па сабе. Гэта фалькларыст, педагог, публіцыст, мовазнаўца, ды наогул, надзвычай адукаваны і цікавы чалавек свайго часу.

Нарадзіўся Адам Багдановіч 20 сакавіка 1862 г. у мястэчку Халопенічы Менскай губерні. Бацькам яго быў прыгонны селянін, якога вывучылі на кухара, таму сям'я вымушана была бадзяцца разам з бацькам па розных панскіх дамах. Дапытлівы хлопчык назіраў, слухаў, запамінаў усё тое, што яму было цікава, а гэта і былі якраз розныя абрады, звычаі, вераванні блізкіх яму людзей. "Я – ранні выхадзец з асяродку сялянства, — напіша пасля Адам Багдановіч, — выхадзец, які мае голас. На мне ляжыць абавязак – я гэта адчуваю – распавесці пра тое, што асабіста перажываў..., што я бачыў, назіраў і слухаў..."

Але найбольшы ўплыў на будучага фалькларыста аказала ягоная сям'я, сям'я ягонай бабулі. Сям'і бабулі Рузалі Адам Багдановіч прысвяціў надзвычай шмат цёплых старонак у сваёй працы "Мае успаміны", якую ён пачаў пісаць у сямідзесяцігадовым узросце, захаваўшы на той час добрую памяць і не страціўшы беларускую мову. У бабулінай хаце казка была зусім нярэдкай госцяю. Казка выхоўвала ў хлопчыка любоў да простага народа. Малы Адам слухаў мілагучную гаворку сваёй бабулі, яму хацелася ведаць усё больш і больш вось такіх незвычайных аповедаў пра чарцей, розных пячысцікаў і міжволі ў яго выхоўвалася цікавасць да звычак, абрадаў, прыхамацеў беларускага народа. Так у яго з'явілася цікавасць да збіральніцтва беларускага фальклору.

Адам Багдановіч рос у беднай сям'і, якая не магла даць яму адукацыю, але хлопчык цягнуўся да навукі. Напачатку ён вучыўся ў пачатковай школе, шмат займаўся самаадукацыяй. Дзеля таго, каб мець магчымасць аплаціць сваю навуку, яму даводзілася працаваць то падзёншчыкам у маёнтку, то падмайстэркам у розных майстэрнях Менску.

У 1879 г. Адам паспяхова вытрымаў іспыты ў "сялянскі універсітэт" – Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. З гэтага часу і пачынаецца сталая праца над збіральніцтвам беларукага фальклору. Выкладчык семінарыі П.А.Увядзенскі дапамагае фалькларысту П.В. Шэйну ў яго збіральніцкай дзейнасці. Семінарыст А. Багдановіч запісаў вялікую колькасць беларускіх песень і казак, якія аддаў Увядзенскаму дзеля перадачы Шэйну. Некаторыя матэрыялы ён збіраў разам са сваім сябрам, — таксама семінарыстам, Ф.І.Гарбачыкам. У прыватнасці разам з ім быў сабраны матэрыял, які пасля пад назовам "Песні сяла Шчорсы Навагрудскага ўезду" быў выкарыстаны Шэйнам у сваіх даследваннях. На жаль, гэты матэрыял згарэў у 1918 г. пад час пажару ў Яраслаўлі. Дарэчы, пра тую трагічную падзею патрэбна ўспомніць больш падрабязна. Пажар быў такі жудасны, што ледзь-ледзь здолелі выратавацца людзі. Аб выратаванні нечага іншага не магло быць нават гаворкі. Тым не менш, у Адама Багдановіча выпадкова на той момант знайшлася невялікая металічная скрынка, куды можна было схаваць ды зберагчы ад агню невялікую колькасць папераў. Адам Ягоравіч схаваў у гэтую скрынку вершы свайго сына. Ён лічыў, што спадчына сына значна важней, чым ягоныя даследванні.



Пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Адам Багдановіч некаторы час настаўнічаў у Ігуменскім павеце, пасля працаваў загадчыкам гарадской пачатковай вучэльні ў Менску. Увесь гэты час ён не траціў дарма, знаходзіў усё новыя крыніцы дзеля сваёй даследчай працы.

1892 г. стаў вызначальным і ў жыцці слыннага фалькларыста, і ў яго творчай працы. У гэтым годзе ён разам са сваёю сям'ёй пераехаў у Горадню. Тут ён атрымаў працу ў сялянскім банку. Гэта быў час найбольш інтэнсіўнай навуковай ды літаратурнай дзейнасці. Службовае асяроддзе Адама Багдановіча складалася з высокаадукаваных людзей, на сваёй адукаванасці Адам Ягоравіч, хоць быў сялянскім сынам, ад гэтых людзей не адставаў. У Горадні ён стаў сябрам праўлення публічнай бібліятэкі. Сродкі гэтай першай у губерні публічнай бібліятэкі былі зусім невялікія, таму сябрам яе праўлення, у тым ліку і Адаму Багдановічу, даводзілася траціць вялікія высілкі, каб забяспечыць нармальную працу гэтай бібліятэкі.

У Горадні былі напісаныя і надрукаваныя найбольш значныя працы Адама Багдановіча. У 1894 г. "Гарадзенскія ведамасці" надрукавалі гістарычны нарыс Адама Багдановіча "Пра паншчыну". У гэтым нарысе аўтар распавядае, якімі бесчалавечнымі былі адносіны да беларускага сялянства розных "прыгонных".

Адной з самых значных ды знакамітых прац Адама Багдановіча ў галіне фалькларыстыкі стала манаграфія "Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў". Гэтая праца ўпершыню была надрукавана ў 1895 г. у Горадні. У ёй Адам Багдановіч грунтоўна даследваў сацыяльнае жыццё беларускага народа, сабраў надзвычай багаты фактычны матэрыял падаў глыбокае навуковае асвятленне вераванням, якія ён называў перажыткамі. Дзеля таго, каб зразумець сапраўд-ны сэнс сапраўды манумен-тальнай працы, патрэбна зрабіць невялікі экскурс у гісторыю. Гэта быў час па-сля задушэння паўстання Кастуся Каліноўскага. Беларусь раздзіралі на кавалкі розныя імперыі. З аднаго боку, Беларусь прадстаўлялі як губерню Расейскай Імперыі, як так званы "Северо-Западный" край, з іншага, беларускую шляхту да гэтага часу альбо вынішчылі, альбо прымусілі лічыць сябе польскай шляхтай. Усё гэта адчуваецца даволі выразна ў працы Адама Багдановіча. Ён збірае надзвычай багаты фальклорны матэрыял, але ён лічыць гэты матэрыял "перажыткамі" беларускага народа. Але нават тое, што, магчыма, сам вялікі фалькларыст не да канца разумеў тое значэнне сваёй працы, але гэта добра зразумеў яго славуты сын, Максім Багдановіч. У сваіх лірычных вершах ён часта карыстаўся сабраным бацькам матэрыялам. Высокую адзнаку гэтай грунтоўнай працы атрымаў Адам Багдановіч і ад сваіх сучаснікаў. " Праца Багдановіча – не кампіляцыя, а самастойная праца. Сабраны ў ім багаты гісторыка-этнаграфічны матэрыял сабраны ды запісаны самім аўтарам на працягу многіх гадоў. Апошняе паведамляе асаблівую каштоўнасць даследваннем Багдановіча". Гэта словы сучасніка Адама Багдановіча, вядомага вучонага Уладзіміра Міхневіча.

Даследуючы душу беларускага народа, яго вераванні ды светаразуменне, аўтар называе іх перажыткамі, але, магчыма нечакана нават для самога сябе, Адам Багдановіч адкрывае ў сваіх суайчыннікаў, — беларусаў велізарнейшы чароўны свет, гэтакі багаты, што ім магла ганарыцца любая еўрапейская нацыя, і не толькі еўрапейская. На гэтую кнігу спасылаюцца даследчыкі і сёння ў сваіх этнаграфічных даследваннях.

Тое, што Адам Багдановіч называў вераванні беларускага народа перажыткамі, — гэта была, безумоўна, даніна часу. У глыбіні душы Адам Багдановіч з найвялікшай любоўю адносіўся да свайго народа і да яго перажыткаў. Гэта добра відаць з адной з яго апошніх прац: "Мае ўспаміны". Вось адна з вытрымак з гэтай працы, дзе Адам Багдановіч апісвае абрад Дзядоў у вёсцы Халопенічы. "Кандрат... уваліваўся ў хату і, перахрысціўшыся, зацягваў гучным голасам уступны кант, а павадыр тоненька яму падцягваў... Закончыўшы кант, ён вітаўся, перакідваўся некалькімі словамі аб надвор'і або навінах: гэтага патрабавалі правілы паводзінаў. А затым станавіўся да абразоў ды пачынаў малітву за памерлых... Кароткая заключная малітва, і, атрымаўшы за памінанне падаянне, хуценька завязваў свае торбы і, прамовіўшы "бывайце здаровы", прыспешваў у наступную хату".

Адам Багдановіч называе сляпога Кандрата з вёскі Халопенічы "беларускім Гамерам". Сваю бабулю Рузалю ён параўноўвае з грэчаскай багіняй Герай. Гэтым самым ён міжволі надзвычай высока ацэньвае і сам беларускі народ, і яго вераванні.

Лёс астатніх этнаграфічных даследванняў Адама Багдановіча даволі трагічны. Яго асноўная праца – 2-ух томная манаграфія "Мова зямлі", "Этнічны склад народаў славянскіх і рускіх" (таксама ў 2-х тамах) засталіся ў рукапісах. На жаль, сённяшняя сітуацыя на Беларусі не спрыяе таму, каб гэтыя даследванні слыннага беларускага этнографа былі надрукаваны.

*Лілея Сазанавец.*

# Давайце спяваць па-беларуску

Андрэй Мельнікаў

## ГЭТА — МЫ

*C G D Am*
Калі нехта кажа: "Бывай!" – гэта яшчэ не значыць – канец.
*C G D Am*
І хаця ў канвульсіях край, рана канстатаваць смерць.
*C G D Am*
І хаця не відаць – куды, і надзея – ні на каго,
*C G D Am*
Ты паслухай, звіняць званы. Гэта з намі гаворыць Бог.

Гэта — скрозь цемру прамень. Гэта – вецер, што рве смугу.
Гэта — мовы сонечны дзень. Гэта – праз забароны рух.
Гэта – годна падняты сцяг. Гэта – шыхт, што гатовы ў бой.
Гэта – крыж на тваіх плячах. Гэта – людзі разам з табой.
Гэта – тысячы моцных ног, што пячатаюць цвёрды рытм.
Гэта – не яны. Ведае Бог: гэта – мы! Гэта – мы!

Ты пачуеш: звіняць званы. Калі здольна пачуць душа
Голас продкаў з далечынь, голас, што не заглушыць час,
Голас памяці гэтай зямлі, гэтых рэчак, гэтых лясоў,
Тых народаў, што тут жылі... Ты паслухай мацнее звон.

Гэта – скрозь цемру прамень і г.д.

Калі нехта кажа : "Бывай!" і г.д.

Творчасць вучняў

# Лінгвістычная казка пра дзеепрыметнік

Быў такі горад "Часціца Мовы".

Жыла там багатая паненка Прымета. І была ў яе дачка Прыметнічка. А недалёка ад іхняга палаца стаяла старая маленькая хацінка. І жыла ў ёй Дзеянне з сынам Дзеясловам. І здарылася так, што пакахалі Прыметнічка з Дзеясловам адзін аднаго, толькі ажаніцца не маглі.

- А давай збяжым, — прапанавала Прыметнічка Дзеяслову. – Краіна "Беларуская мова" вялікая, месца і нам хопіць.

-Давай! Сустрэнемся на дарозе праз тры дні апоўначы.

Так і разышліся.

Сустрэліся каханкі і пабеглі, куды вочы глядзяць. Доўга яны беглі ці не, толькі да нейкай вёскі дабраліся. Людзі там былі дабрыя, прынялі маладых. Там і сталі жыць Прыметнічка і Дзеяслоў.

Ішоў час. Нарадзілася ў іх дзіця: склоны, роды і лікі ад маці пераняло, а трыванне са станам – бацькавы. Таму і назвалі яго Дзеепрыметнікам. Рос сынок, але быў нейкі дзіўны: збіраўся з іншымі часцінамі мовы ды аб'ядноўваўся ў гурт (Дзеепрыметны зварот). Гулялі яны весела, часам і не зважалі на іншых (аддзяляліся коскамі).

Як споўнілася Дзеепрыметніку дзесяць год, маці расказала яму сакрэт:

- Ты, сынок, навучыся формы мяняць. Падарыла я табе іх дзве – поўную і кароткую. Глядзіш, калі-небудзь і спатрэбяцца.

У кароткай форме ты – гаспадар, як бацька, у поўнай – прымета, як маці. Ведай яшчэ, што ёсць у цябе сябрук – НЕ. Толькі будзь асцярожны з ім, бо незасёды на яго можна спадзявацца. Помні: калі ты разам з сябрамі або ў кароткай форме, калі ёсць супрацьстаўленне побач, нельга табе з ім сябраваць. Калі ж без НЕ цябе не прымаюць у гурт, не разумеюць ці няма побач іншых, залежных ад цябе, будзь з ім як адно цэлае. У гэтым твая моц.

Вось так і заняў Дзеепрыметнік сваё адметнае месца ў цудоўнай краіне "Беларуская мова".

*Ганна Згірская,*
*вучаніца 7 "В" класа Полацкай нацыянальнай гімназіі.*
*(выкладчыца – Т.П.Гарэлікава)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

**Заснавальнік:**
ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:**
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
**Адрас рэдакцыі:**
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:**
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** ns@lida1.lingvo.grodno.by

**Рэдакцыйная калегія:**
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

**Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі**

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 12. 07. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1890 .
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 40 000 руб., 3 мес.- 120 000 руб.
**Кошт у розніцу:** 10 000 руб.